# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (672) ГОД XIV 12 СТУДЗЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

# БГКТ

## ПЛАН ДЗЕЙНАСЦІ НА 1969 ГОД

Як мы ўжо інфармавалі, пленум ГП на апошнім сваім пасяджэнні пастанавіў у маі склікаць VI з'езд БГКТ. У сувязі з гэтым прадбачаны на першы квартал справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ў аддзелах. План працы прадбачвае ў лютым правесці папулярна-навуковую сесію з нагоды 50-ай гадавіны БССР і ў чэрвені — сесію ў сувязі з 25-ай гадавінай Народнай Польшчы.

У лютым і сакавіку, згодна з планам, павінны адбыцца паваятовыя і ваяводскія агляды мастацкіх калектываў.

ГП падрыхтуе 40 радыёгутарак, 300 гутарак перад рознымі мерапрыемствамі і 250 фотавыставак.

У 1969 годзе кінаперасоўкай ГП прадэманструецца 250 фільмаў, а эстрада «Лявоніха» дасць 242 канцэрты. 30 выступленняў запланавана для харавых калектываў у Гарадку, Бельску і Гайнаўцы. Нашыя літаратары ў гэтым годзе будуць мець 80 аўтарскіх сустрэч. Для іх будуць арганізаваны два семінары.

На асенняя месяцы прадбачана арганізаваць 15 асветных курсаў для дарослых. На восень запланаваны таксама канферэнцыі для аддзелаў, на якіх будуць абмеркаваны заданні для гурткоў БГКТ на асенне-зімовы перыяд.

Па прыкладу мінулых год, супольна з куратарыяй і гэтым разам у лістападзе адбудзецца дэкламатарскі конкурс для школьнікаў, а супольна з ваяводскай бібліятэкай — чытальніцкі конкурс.

У выдавецкай галіне прадбачваецца ў 1969 годзе выдаць: каляндар на 1970 год, літаратурны альманах, зборнік Сакрата Яновіча, рэпертуарны зборнік для мастацкіх калектываў і падрыхтаваць навуковы зборнік.

У гэтым годзе намаганнямі БГКТ далей будзе папаўняцца новымі экспанатамі наш этнаграфічны музей у Белавежы.

## 50-АЯ ГАДАВІНА БССР

Далей адбываюцца сходы ў пасобных вёсках з нагоды 50-ай гадавіны БССР і КПБ. У Крывой, у Бельскім павеце, і ў Луцэ, Гайнаўскага павета, аб 50-гадовым шляху БССР расказвалі члены ГП Уладзімір Станкевіч і Лідзія Бялецкая.

Сакратар ГП Уладзімір Юзвюк меў спатканне са школьнікамі, а пасля — з моладдзю ў Семяноўцы. Пасля яго даклада адбылася ў школе віктарына на тэму БССР. Удзельнікі віктарыны атрымалі кніжныя ўзнагароды.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ АДДЗЕЛА

20 снежня адбылася ў Беластоку канферэнцыя Міхалоўскага аддзела БГКТ. Вёў канферэнцыю старшыня аддзела Янка Палоцкі, а даклад аб працы аддзела ў святле пастаноў V з'езда ПАРП чытаў інструктар ГП на Міхалоўскі аддзел Аляксандр Баршэўскі.

У дыскусіі многа крытычных заўваг было аб працы праўлення і старшыні аддзела.

Удзельнікі канферэнцыі пастанавілі абслужыць усе гурткі БГКТ і дапамагчы ім у правядзенні справаздачна-выбарчых сходаў. (мх)



Зімою ў лесе. Фота: Віктар Рудчык



12 студзеня — 70 год з дня нараджэння (1899) Канстанцыі БУІЛА

## Л•Ю•Б•Л•Ю

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў,
І рэчку, што імклівa воды
Нясе ў няведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І холад чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю.
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўроначка люблю,
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.
І час жніва душой люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што, ўкрыўшы поле,
Ірдзее бляскам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
Да позна на дварэ сядзець,
Сачыць за сініх зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.

КАНСТАНЦЫЯ БУІЛА

## БАЯВАЯ СПАДЧЫНА

Хведара Савіцкага напэўна нашы чытачы памятаюць з некаторых публікацый у «Ніве» аб ім, а таксама з яго ўспамінаў (якія не так даўно друкаваліся) аб міжваенным беларускім рэвалюцыйным руху на Бельшчыне.

У гэтым артыкуле мы хочам коратка расказаць аб дзейнасці Хведара Савіцкага ў гады станаўлення народнай улады ў Польшчы.

Старэйшае пакаленне памятае цяжкі перыяд нараджэння і ўмацавання новага ладу на Беласточчыне. Будова маладой народнай улады адбывалася ў вострай палітычнай барацьбе. Дэлегатура эміграцыйнага лонданскага ўрада ў апошнія месяцы нямецкай акупацыі падрыхтавалася да таго, каб пасля вызвалення Беластока ўзяць дзяржаўную ўладу ў свае рукі. Напярэдадні вызвалення Беластока акруговы дэлегат лонданскага ўрада Юзэф Пшыбышэўскі выдаў адозву, у якой заклікаў жыха-




роў ваяводства захаваць вернасць эміграцыйнаму ўраду і назначаным ім уладам.

Як бачым, арганізаванне адміністрацыйнага апарату народнай улады было вельмі складанае для прадстаўнікоў Польскага Камітэта Народнага Вызвалення і ЦК ППР. Тым больш, што лонданскі дэлегат прыступіў таксама да арганізавання свайго адміністрацыйнага апарату. Прадстаўнікі ПКВН арганізавалі Ваяводскі камітэт партыі, Ваяводскую раду нарадовую, аб'ядноўвалі вакол сябе актыў, які ў асноўным складаўся з прадстаўнікоў антыфашысцкага руху супраціўлення.

Адным з такіх актывістаў быў і Хведар Савіцкі, які ўступіў у рады ППР і пасля быў накіраваны Ваяводскім камітэтам ППР на працу ў Ваяводскай бяспецы на пасаду начальніка кадраў. А тады кадры бяспекі вырашалі ўсё. Яны ж вялі ўзброеную барацьбу з бандамі, яны стваралі глебу для працы народнай адміністрацыі. Гэта перш за ўсё на іх былі накіраваныя ўдары ўзброеных рэакцыйных банд і здрадніцкія кулі з-за вугла. У той цяжкі час органы бяспекі не мелі дастатковай колькасці зброі, абутку, адзежы, харчоў. Не было транспарту. Дзесяткі кіламетраў даводзілася хадзіць пешшу.

— Было гэта 4 студзеня 1945 года, — успамінае Хведар Савіцкі. — Я з сяржантам Прычынічам пешшу накіраваліся да Аўгустова, а пасля — у Сувалкі. Неабходна было там вербаваць людзей да працы ў нашых органах, ды трэба было праверыць тых, якія ўжо былі ў органах бяспекі. А сярод людзей добрых, адданых справе новага ладу ў нашай краіне, былі людзі нічым не звязаныя з нашай новай рэчаіснасцю, прыходзілі і прапанавалі свае паслугі даваенныя «двуйкажы». Некаторыя ўжо працавалі ў нас і, відома, такіх людзей трэба было не дапускаць да такой адказнай працы, якой былі органы бяспекі.

Пры вярбоўцы новых кадраў бяспекі Хведару Савіцкаму заўсёды дапамагаў класавы падыход да людзей, нейкае спецыфічнае адчуванне, нейкае адмыслова яму вядомае пачуццё, інстынкт. І гэтыя адчуванні ніколі не падводзілі яго. Аднойчы быў такі выпадак. Калектыўна праводзілася з адным маладым чалавекам гутарка аднесна працы ў бяспецы. Усім ён спадабаўся. У дадатак да гэтага меў ён закончаную сярэднюю адукацыю. А тады людзі з сярэдняй адукацыяй ціняліся на вагу золата.

— Але мне, — гаворыць Савіцкі, — ён выдаўся непраўдападобны. Нейк ён не мог глядзець проста мне ў вочы. Я не быў за тым, каб яго прыняць. Яго аднак прынялі да працы. Але яму я неяк не давяраў. І слушна. Аказалася, што гэта быў правакатар, у якога ў хаце знайшлі нашыя работнікі шмат схаваннай зброі. А што значыць правакатар у органах бяспекі ці міліцыі, ці

(Працяг на стар. 5.)

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### АДНАДУМНАСЦЬ САВЕТА БЯСПЕКІ

1968 год не закончыўся мірным націскам. Асабліва небяспечнай для міру з'яўляецца ваяўнічасць кіруючых кругоў Ізраіля. Урад Ізраіля ў адносінах да арабскіх краін стараецца весці палітыку ваеннага шантажу.

Штопраўда, 1968 год закончыўся ўзрастаючай ізаляцыяй ізраільскага агрэсара. Напярэдадні новага 1969 года, 31 снежня 1968 года, Савет Бяспекі ААН прыняў аднагалосна рэзалюцыю, якая асуджае дзяржаву Ізраіль за яго абдуманую ваенную акцыю на цывільны міжнародны аэрапорт Лівана ў Бейруце. Рада Бяспекі прызнала, што гэты зроблены наўмысна акт гвалту пагражае ўтрыманню міру і перасцерагла Ізраіль, што ў выпадку, калі б паўтарылася падобная акцыя, Савет Бяспекі будзе вымушаны разгледзець справы далейшых крокаў, якіх мэтай было б наданне рэзалюцыі форм пакарэння. Рада прызнала адначасова, што Ліван мае поўнае права, каб атрымаць кампенсацыю за нанесеныя яму страты, за што адказнасць падае на дзяржаву Ізраіль.

Усе, без ніякіх выключэнняў, члены Савета Бяспекі рашуча асудзілі грубыя акты агрэсіі ізраільскай ваеншчыны. Факт аднагалоснасці ў такіх справах з'яўляецца вельмі рэдкім выпадкам у Савеце Бяспекі, і тым больш сведчыць аб ізаляцыі Ізраіля на міжнароднай арэне.

### ЗВЫШГУКАВЫ «ТУ — 144»

Апошні дзень 1968 года запісаў у хроніках першае выпрабаванне лёту савецкага пасажырскага звышгукавога самалёта **«ТУ — 144»**. Самалёт пралящеў дарогу роўную адлегласці між Сімферопалем і Масквой на працягу 38 мінут, ляцеўшы ў сярэднім з хуткасцю 2500 км/гадзіну. Першы звышгукавы пасажырскі самалёт забірае 120 пасажыраў.

Трэба падкрэсліць, што першы французска-брытанскі звышгукавы самалёт «Канкорд», зробіць свой пробны палёт у студзені гэтага года. Такім чынам «Ту — 144» з'яўляецца першым пасажырскім звышгукавым самалётам, які ўзляцеў у нябёсы

### КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ У ЗША?

Бюро перапісу насельніцтва Злучаных Штатаў Амерыкі паінфармавала, што 1 студзеня 1969 года насельніцтва Злучаных Штатаў налічвала **202.254 тысячы** чалавек.

### ПРАБАЧЭННЕ ЮНЦЕ

19 месяцаў таму Злучаныя Штаты заявілі, што на знак пратэсту супраць фашысцкаму перавароту ў Грэцыі, урад ЗША ўстрымоўвае ваенную дапамогу гэтай краіне. Безумоўна, разыходзілася толькі аб яўную дапамогу. Зараз амерыканцы нічога не таяць. Грэцыя ў хуткім часе атрымае ад ЗША рэактыўныя самалёты і іншае ўзбраенне. «Працяг будзе» — пішуць амерыканскія газеты. А.К.



## БССР

### ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

28 снежня 1968 года адбылося ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР, прысвечанае Пяцідзесяцігоддзю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі. У пасяджэнні ўдзельнічалі дэлегацыі саюзных рэспублік і іх камуністычных партый, якія ўзначальвалі рэспубліканскія партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі, а таксама дэлегацыі гарадоў-герояў. З Масквы прыбыў Генеральны сакратар ЦК КП Савецкага Саюза **Л. І. Брэжнеў.**

Першы сакратар ЦК КП Беларусі **П. Машэраў** у сваёй прамове, м. ін., сцвердзіў:

«Не толькі айчынная, але і сусветная навуковая грамадскасць знаёма з выдатнымі дасягненнямі вучоных Савецкай Беларусі. Нашы даследчыкі ўносяць адчувальны ўклад у развіццё фізікі і кібернетыкі, матэматыкі і геалогіі, ядзернай энергетыкі і многіх іншых галін ведаў. Па шэрагу важных напрамкаў навукі і тэхнікі, напрыклад, у распрацоўцы праблем цепла- і масаабмену, тэхнічнай кібернетыкі, люмінесцэнцыі і спектраскапіі, выкарыстання ўльтрагуку, механізацыі і электрыфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці і воднай гаспадаркі, нашы навуковыя ўстановы з'яўляюцца галоўнымі і каардынуючымі цэнтрамі»... у СССР.

З прамовамі выступілі кіраўнікі дэлегацый паасобных саюзных рэспублік і гарадоў-герояў.

Назаўтра, 29 снежня, адбыўся ў Мінску ваенны парад і дэманстрацыя працоўных. Паказана навейшае ўзбраенне Чырвонасцяжнай Беларускай Ваеннай Акругі.

У святе ўдзельнічала дэлегацыя Узброеных Сіл Саюза ССР на чале з першым намеснікам міністра абароны СССР, Маршалам Савецкага Саюза **І. Якубоўскім.** У складзе дэлегацыі — м. ін. Маршал авіяцыі **С. Красоўскі,** і генералы.

Газеты публікуюць пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КП Савецкага Саюза, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савету Міністраў СССР, прынятае на ўрачыстым пасяджэнні ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР, прысвечанаму Пяцідзесяцігоддзю.

Апублікавана паведамленне ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў Беларускай ССР аб прысуджэнні дзяржаўных прэмій БССР за 1968 год. Прэмію імя Янкі Купалы прысуджана **Аляксею Пысіну** за зборнік вершаў і паэм «Твае далоні»; прэмію імя Якуба Коласа прысуджана **Міхасю Лынькову** за раман «Векапомныя дні». Прэмію ў галіне музыкі прысуджана **Яўгену Цікоцкаму** за оперу «Алеся». Прысуджана прэміі ў галіне журналістыкі, тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі і архітэктуры.

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### НАВАГОДНІ ТОСТ

На навагоднім балю ў ЦК партыі ў час ўрачыстага тосту І сакратар ЦК Уладзіслаў Гамулка, між іншым, заявіў:

«Замыкаем стары год з пачуццём добра выкананага абавязку. Ахвярныя намаганні рабочага класа і ўсяго працоўнага народа прынеслі нашай Айчыне новыя, трывалыя дасягненні, пабольшылі матэрыяльнае і духовае багацце нашага народа. Стварылі мы новую вытворчую сілу, пабудавалі новыя дамы, новыя школы, выхавалі новыя рады будаўнічых Народнай Польшчы. Умоцнілі мы нашую сацыялістычную дзяржаву — яе ўнутраную сілу і яе бяспеку. У пастановах V з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі вызначылі мы нашу дарогу наперад.

З гэтай нагоды ад імя Цэнтральнага Камітэта нашай партыі складаю гарачую падзяку ўсім тым, хто ў мінулым годзе сваім штодзённым намаганнем, патрыятычнай паставай прычыніўся да паспяховай рэалізацыі заданняў нацыянальнага гаспадарчага плана ва ўсіх галінах жыцця».

### НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

У навагодняй прамове Старшыня Рады Дзяржавы Мар'ян Спыхальскі пераказаў ад імя найвышэйшых дзяржаўных улад Народнай Польшчы найлепшыя пажаданні ўсяму народу. Падзякаваўшы ўсім, хто прычыніўся да датагачасных дасягненняў, Старшыня Рады Дзяржавы заявіў:

«— Хачу таксама запэўніць вас, што, як у мінулым, так і ў наступаючых гадах, народная ўлада кіравацца будзе турботамі пра бяспеку і развіццё нашай айчыны, якой адраджэнне і адбудова ў справядлівых межах каштавалі толькі гарачай салдацкай крыві, толькі пакутаў, а ў свабоднай ужо краіне — толькі ахвярных намаганняў польскага працоўнага народа. Служыць Польшчы як мага найлепш — з'яўляецца адзінай мэтай усіх органаў нашай дзяржаўнай улады — Сейма, Рады Дзяржавы, радаў нарадовых».

### АЎТОБУСЫ

У гэтым годзе значна пабольшыцца прадукцыя аўтобусаў. Найбольшая ў краіне фабрыка аўтобусаў у Саноку выпрадукуе каля 3 тысяч аўтобусаў «Н—100», гэта значыць каля 300 больш, чымсьці ў 1968 годзе.

### 100.000

Паводле планаў памяшкальныя спулдзельні перакажуць у гэтым годзе ў карыстанне звыш 100 тысяч памяшканняў. Варта прыпомніць, што 5 гадоў таму назад спулдзельні пераказвалі толькі 28 тысяч памяшканняў у год. Зараз у спулдзельчых памяшканнях жыве звыш мільён асоб. Не гледзячы на вялікі прагрэс, запатрабаванне на памяшканні значна большыя ад магчымасці іх забеспячэння. На памяшканні чакае зараз 250 тысяч членаў будаўляных спулдзельняў і звыш 400 тысяч кандыдатаў. Да канца 1970 года лікі гэтыя пабольшацца.



## ВАЯВОДСТВА

### «МІНСК — 22»

«Мінск — 22» гэта высокаспраўная электронная вылічальная машына, якую прадукуюць у Савецкай Беларусі. Незадоўга гэтую машыну атрымае Беластоцкі цэнтр электроннай вылічальнай тэхнікі.

### ДЗЯЦІНЦЫ

Летам мінулага года, калі ў гаспадароў накапілася найбольш работы, у вёсках Беластоцкага ваяводства было наладжана 528 сезонных дзяцінцаў, у якіх знайшло апеку звыш 13 тысяч дзяцей. Гэтым чынам Беластоцкае ваяводства заваявала сабе І-шае месца ў краіне. На Беласточчыне найлепш справіўся Беластоцкі павет.

### ПРЫЗНАННЕ

Арганізацыя Саюза сацыялістычнай моладзі, якая існуе пры энергетычным прадпрыемстве ў Беластоку, адзначылася ахвярнасцю ў грамадскіх чынах у гонар V-га з'езда партыі. Члены ЗМС гэтай арганізацыі, між іншым, грамадскім чынам перабудавалі асвятленне вуліцы Ліповай і Рынку Касцюшкі ў Беластоку. Іх грамадскую ахвярнасць высока ацаніла Галоўнае праўленне ЗМС на сваім апошнім пленарным пасяджэнні. Беластоцкія энергетыкі, члены ЗМС, як адзіныя ў краіне, атрымалі дыплом прызнання і ганаровы вымпел.

### ЧЫН ЖАНЧЫН

Як інфармуе нас Ваяводская рада жанчын, вартасць грамадскага чыну, якім жанчыны Беласточчыны, члены Лігі Жанчын, віталі V з'езд партыі, аблічваецца на суму 279 тысяч злотых. Члены гурткоў вясковых гаспадынь выканалі абавязацельствы, вартасць якіх дасягнула 1 мільёна злотых.

### БЕЛАРУСЬ — БЕЛАСТОК

Ужо пяты год Беласточчына атрымоўвае электраэнергію з Савецкай Беларусі. На працягу гэтага часу электралініяй высокага напружання Рось—Беласток пайшло ў Польшчу амаль паўтара мільярда кілаватагадзін электрычнай энергіі.

### ГАЙНАЎСКІЯ ВУЧНІ

Вучні гайнаўскіх сярэдніх школ наладзілі папулярна-навуковую сесію прысвечаную 20 гадавіне аб'яднання прагрэсіўнага маладзёжнага руху. Маладыя гайнаўскія даследчыкі падрыхтавалі даклады аб дзейнасці маладзёжных арганізацый у час гітлераўскай акупацыі і пасля вызвалення. Сесія суправаджалася багатай мастацкай часткай.

### ПАМЯШКАННІ

Рабочыя воўнаапрацоўчага прадпрыемства ў Васількове заснавалі мешканёвую спулдзельню, якая ўжо пабудавала адзін жыллёвы гмах для 60-ці сем'яў і мае намер пабудаваць яшчэ тры такія будынкі. Васількоўскае прадпрыемства выдатна дапамагае сваім рабочым у накапленні неабходнай сумы грошай на членскія ўзносы членам спулдзельні. (вр)




**Niedziela, 12.I.**

8.20 Program dnia. 8.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Eksploatacja budynków inwentarskich''. 9.00 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.10 ,,Dospat'' — film bułg. 9.25 PKF. 9.35 ,,Melodie na dzień dobry''. 10.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' (Berlin). 11.00 ,,Edyta'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 12.00 Dziennik. 12.10 ,,Sezam muzyczny''. 13.00 ,,Grand Prix'' (,,W starym kinie''). 14.00 ,,Przemiany''. 14.30 ,,Twierdza'' — film dok. (,,Polacy na fontach II Wojny Światowej''). 14.50 Dla dzieci: W. Kurdiumow — ,,Ilia Muromiec'' (widowisko Państw. Teatru Lalki i Aktora ,,Miniatura'' w Gdańsku). 15.35 (,,Piórkiem i węglem''). 16.00 ,,Spotkanie z Andrzejem Boguckim''. 16.35 Felieton TV. 16.45 ,,Teatr Telewizji na świecie'' — ,,Skrzynia'' — widowisko TV Rumuńskiej. 17.45 ,,Ludzie i zdarzenia''. 18.00 Finał Festiwalu Piosenki Studenckiej. 19.20 ,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Kroki we mgle'' — film fab. ang. 21.30 Wiadomości sportowe. 21.40 ,,Ewa i samochód'' — film.

**Poniedziałek, 13.I.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec''. 17.30 Magazyn Sportowy. 17.50 ,,Argisz wędruje ku słońcu'' — film radz. 18.10 ,,Reporterzy proponują''. 18.45 ,,Eureka''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. E. Niziurski: ,,Ucieczka z Betleemu''. 21.20 ,,Rozmowy o książkach''. 21.35 ,,Klaps''. 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 14.I.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski: C. K. Norwid: ,,Pierścień Wilkiej Damy''. 9.35 ,,Podrzutek'' — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. V i VI) Język polski: ,,Drobna rzecz'' (,,O miejsce wśród ludzi'') (Prawdomówność). 11.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 ,,Przysposobienie Rolnicze'': ,,Rolnictwo po V Zjeździe PZPR'' cz. II. 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Dwanaście miesięcy'' — film CSRS. 17.00 TV Ekran Młodych. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Pokusa'' — film fab. USA. 21.40 Program publ. 22.05 Dziennik.

**Środa, 15.I.**

9.20 ,,Pokusa'' — film fab. USA. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: ,,Sól kamienna'' 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: ,,Naczynia połączone''. 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 ,,Matematyka w szkole''. ,,Rodzaje izometrii' cz. I. 15.30 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Jak dawniej przyrządzano leki'' (,,Klub pod Smokiem''). 17.20 ,,Człowiek a ziemia''. 17.45 ,,TV Kurier Warszawski''. 18.00 ,,Muzyka wczoraj i dziś''. 18.30 ,,Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego''. 18.45 ,,Dialogi historyczne''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Felieton literacki (W 100 rocznicę urodzin St. Wyspiańskiego). 20.20 ,,Ciocia Emma'' — film (,,Alfred Hitchcoock przedstawia''). 21.05 ,,Światowid''. 21.35 Studio Współczesne: ,,Trio'' wg sztuki teatralnej J. Joyc'a ,,Wygnańcy''. 22.15 Dziennik.

**Czwartek, 16.I.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: ,,Poezja XVII wieku''. 10.25 ,,Zakochani rowerzyści'' — film fab. węg. 12.05 Przerwa. 12.45 i 14.55 ,,Mechanizacja rolnictwa'' — ,,Układ chłodzenia silników spalinowych''. 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów:: ,,Ekran z bratkiem''. 17.50 ,,Telekram''. 18.00 TV Kurier Białostocki. 18.15 ,,Perspektywy techniki''. 18.45 ,,Jazz w Filharmonii''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Kontakty''. 20.35 ,,Oblężenie'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 21.35 ,,Klimat'' — program ekonomiczny. 22.00 Dziennik.

**Piątek, 17.I.**

10.00 Oblężenie'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie plastyczne: ,,Plakat''. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 ,,Preorientacja zawodowa''. 15.30 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.05 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 ,,Nie tylko dla pań''. 17.55 ,,Kino Filmów Amatorskich''. 18.25 Wszechnica TV: ,,Progres''. 18.55 ,,Trzy grosze''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Program public. 20.30 Teatr TV. ,,Prostaczek'' wg Woltera. ok. 22.00 ,,Rozmowy o książkach''. 22.15 Dziennik.

**Sobota, 18.I.**

9.10 ,,Dziwna dziewczyna'' — film fab. jug. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: ,,Układ krwionośny''. 11.25 Przerwa. 11.45 Dla szkół (kl. VI) Geografia: ,,Dolny Śląsk''. 12.15 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Adaptacja starych budynków inwentarskich''. 16.10 Program Tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Dla każdego coś miłego''. 17.30 ,,W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników''. 17.45 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.10 ,,Gawędy o współczesności''. 18.30 ,,Fruwające gwiazdy'' — program rozrywkowy (Helsinki). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,15.10 do Yumy'' — film fab. USA (Kino Interesujących Filmów). 21.50 ,,Almanach''. 22.20 Dziennik. 22.25 ,,Wiadomości Sportowe''. 22.45 ,,Śpiewa Eartha Kitt' — film. 23.10 ,,Ewa'' — film.




**Piątek, 10 stycznia**

8.05 Dziennik. 8.15 ,,Cuda przyrody''. 8.30 Koncert. 9.00 TV teatr dla dzieci. 10.15 ,,Wesołe miasteczko''. 14.55 Program dnia. 15.00 Dla uczniów. 15.30 ,,Nowiny''. 15.45 Almanach TV. 16.15 ,,Bajka noworoczna''. 17.00 ,,Dziennik pięciolatki''. 17.30 ,,Klub filmowy''. 18.30 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 19.30 ,,Sztafeta nowin''. 20.15 ,,Mistrzowie podwodnych szlaków''. 21.15 ,,Klub miłośników piosenki''. 22.00 ,,Tylko fakty''.

**Sobota, 11 stycznia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Człowiek i religia''. 9.00 Spektakl dla dzieci. 10.30 ,,Pentagonia 68''. Pamflet. 10.50 ,,Szkatułka muzyczna''. 11.10 Filmy animowane dla dzieci. 11.45 ,,Nasz Lenin''. 12.30 Wystawa jubileuszowa białoruskich plastyków. 13.00 Hokej. CSKA — ,,Dynamo'' (Moskwa). 15.30 TV barwna. 16.45 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 18.00 ,,Przy płomyku''. 19.00 ,,Kłos''. 19.35 ,,Wielka rada''. Film fabularny. 21.00 ,,Białe i czarne''. 21.30 ,,Tylko fakty''.

**Niedziela, 12 stycznia**

8.00 ,,Kiosk muzyczny''. 8.30 Program dla uczniów. 9.15 Film dla dzieci. 9.30 ,,Przedstawienie noworoczne''. Dla dzieci. 11.30 ,,Mistrzostwa ZSRR w hokeju z piłką. ,,Dynamo'' (Moskwa) — SKA (Świerdłowsk). 12.45 Dla żołnierzy. 13.30 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 15.30 ,,Wiejski czas''. 16.30 TV barwna. ,,Pieśni o Leninie''. Koncert. 19.05 ,,Zielony wóz''. Film fabularny. 20.25 ,,Ojczyzna''. 21.25 Program na jutro.

# 50-ГОДДЗЕ КПП у БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

14 снежня 1968 года адбылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску першая ў яго 20-гадовым існаванні навукова-папулярная сесія. Сесію гэтую падрыхтавалі самі вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы мгр Таісы Бялецкай-Калішэвіч.

У вялікай зале, удэкараванай чырвонымі палотнішчамі з надпісамі «50-годдзе КПП, 45-годдзе КПЗБ, 20-годдзе ПАРП» і беларускімі народнымі дыванамі, сабралася звыш 250 вучняў, настаўнікі, госці. Сесію адкрыў дырэктар ліцэя мгр Мікалай Гайдук.




**З залы папулярна-навуковай сесіі. З дакладам выступае вучаніца II класа «Б» Надзея Прахарук. У ганаровым прэзідыуме І. Навакоўскі, мгр У. Юзвюк, мгр М. Гайдук, Л. Бялецкая, мгр Т. Бялецкая-Калішэвіч, М. Бандарук, Я. Дземаньчук.**

З дакладам на тэму «Утварэнне і першыя гады дзейнасці КПП» выступіла вучаніца II класа «Б» Надзея Прахарук. Ахарактарызавала яна эканамічнае становішча Польшчы пасля абвяшчэння незалежнасці, яе ўнутрыдзяржаўную і замежную палітыку, потым заснаванне КПП, «якая сярод шматлікіх буржуазных палітычных групіровак... была адзінай марксісцка-ленінскай партыяй, мабілізуючай масы да барацьбы за сацыялістычныя пераўтварэнні...» Далейшы 20-мінутны даклад быў прысвечаны дзейнасці гэтай партыі.

Другі дакладчык — вучань XI класа «Б» Мікалай Бандарук выступіў з 16-старонкавым дакладам «Дзейнасць КПЗБ і яе легальных арганізацый — Грамады, ТБШ і «Змагання» ў міжваенны перыяд на Беласточчыне». Слухаючы гэты даклад, складалася ўражанне, што падрыхтаваў яго дасведчаны даследчык. Дасканалая беларуская мова, выкарыстанне амаль усёй вядомай па гэтаму пытанню літаратуры, цытаты з найбольш папулярных распрацовак, выказванні саміх правадыроў гэтых партый, агульная прадуманая пабудова даклада захапілі ўсю моладзь.

Пасля М. Бандарука слова ўзяла Лідзія Бялецкая — дзеяч КПЗБ тагачаснага Бельскага павета, ураджэнка Бельска. Расказала яна прысутным аб формах канспірацыйнай працы партыі ў Беластоцкім ваяводстве і сваёй дзейнасці ў Бельскім павеце як раённага сакратара. Выступленне ветэранкі моладзь успрыняла бурнымі воплескамі, а на заканчэнне ўручыла ёй кошык жывых кветак. Зважыўшы выключна цяжкае мінулае Л. Бялецкай за ўдзел у дзейнасці КПЗБ, такая шчырая сустрэча ўсхвалявала і ветэранку і моладзь.




**З дакладам выступае вучань XI класа «Б» Мікалай Бандарук.**

Пасля перапынку з чарговым дакладам аб удзеле былых членаў КПП і КПЗБ у барацьбе з гітлераўскім акупантам на Беласточчыне выступіў вучань XI класа «Б» Яўген Дэмянюк. І гэты даклад апрацаваны быў дасканала. прысутныя выслухалі яго з вялікай цікавасцю.

Урэшце, апошні дакладчык, вучань XI класа «Б» Уладзімір Навакоўскі выступіў з больш агульным, хоць таксама цікавым дакладам «Праблемы моладзі ў міжваеннай Польшчы і зараз», у якім ахарактарызаваў становішча рабоча-сялянскай моладзі ў міжваенны перыяд, дзейнасць тагачасных прагрэсіўных арганізацый і сучасныя перспектывы грамадскага авансу моладзі. Асабліва карысна выпалі параўнанні ў Бельскім павеце, які мае зараз 6 сярэдніх школ з уласным новым ліцэем.

Сесія апраўдала пастаўленыя перад ёю мэты. Ініцыятыва бельскага ліцэя цікавая тым больш, што тут самі вучні знаёмілі сваіх сяброў з усімі прагрэсіўнымі традыцыямі паўднёва - ўсходняй Беласточчыны.

**У. Юзвюк**



**З увагай і пільнасцю слухаюць прысутныя даклады сваіх сяброў.**

# На старонках „ПОЛЫМЯ“

★ ★ ★

Снежаньскі нумар прыносіць сігналізаванае ўжо намі заканчэнне рамана І. Шамякіна «Снежныя зімы». Яно апраўдала нашы спадзяванні: раман павінен стацца значнай падзеяй у беларускай прозе, а мо' і не толькі ў беларускай. Галоўны герой Іван Антанюк, былы партызанскі камандзір, дзяржаўны дзеяч, прынцыповы камуніст, у «кукурузны час» адхілены ад пасады за адстойванне супярэчных з афіцыйным курсам поглядаў на развіццё сельскай гаспадаркі. Будучы пенсіянерам, сутыкаецца ён з былымі сябрамі і падначаленымі. Іх адносіны да яго розныя. Тут і сардэчная дружба і подласць. У гэтай атмасферы разгортваюцца падзеі ў рамане, яны ўводзяць у сваю арбіту розныя слаі і ўзросты, у іх праяўляюцца людскія характары і паводзіны. Калі ўрэшце Іван Антанюк можа вярнуцца на адпаведную ранейшай пасаду, ён едзе працаваць у вёску, знаходзіць шчасце ў працы з «простымі» людзьмі.

«Полымя» змяшчае вялікую падборку новых вершаў Максіма Танка. Прыводзім адзін з іх:

Уся зямля гарыць у майскай
квецені.
Колькі год я па ёй вандраваў!
А сёння спыніўся:
як жа ісці
Па вуснах пявучых траў,
Па жывых, раскрытых вачах
лотаці
Дык вось чаму птушкі лётаюць!

Месячнік знаёміць нас таксама з новымі вершамі Эдзі Агняцвет, Антона Бялевіча, Кастуся Кірэенкі і з новымі перакладамі вершаў Адама Міцкевіча.

Беларусь вядзе актыўную знешнепалітычную дзейнасць. Асабліва актыўнай стала яна ў пасляваенны час. Аб гэтым піша ў «Полымі» міністр замежных спраў БССР Анатоль Гурыновіч. Цікавым таксама з'яўляецца артыкул М. Булахава і М. Бірылы «Роўная сярод роўных». Расказваецца ў ім аб тым, як у апошнія 50 гадоў развівалася беларуская літаратурная мова, як яна стала адным з важнейшых элементаў нацыянальнай беларускай культуры і дасягнула высокай дасканаласці.

Настаўнікам беларускай мовы звяртаем увагу на артыкул Варлена Бечыка «Заўсёды новая кніга», у якім даецца кароткі агляд творчасці Аркадзя Куляшова і артыкул Ніны Тарас «Пяснярка роднай зямлі», у якім разглядаецца творчы шлях старэйшай беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйлы. Прыпамінаем, што 12 студзеня г.г. мінае 70 год з дня нараджэння паэтэсы.

Гісторыкаў напэўна зацікавяць рэцэнзіі на выдадзены ў 1968 годзе зборнік дакументаў і матэрыялаў «Барацьба за Савецкую ўладу ў Беларусі (1918—1920 г.г.)» і зборнік Інстытута славяназнаўства АН СССР» «Рэвалюцыйная Расія і рэвалюцыйная Польшча», які выйшаў у 1967 г.

Варта яшчэ звярнуць увагу на новыя «старонкі беларускай энцыклапедыі». Змяшчаюцца ў іх, між іншым, звесткі пра каменданта Смольнага інстытута, Таўрычаскага Марыінскага і Зімняга палацаў — Міхаіла Прыгароўскага, выдатнага савецкага археолага Барыса Рыбакова і эканаміста XVIII стагоддзя Сцяпана Аскерку.

У апошнім, мінулагоднім нумары «Полымя» змяшчае змест часопіса за 1968 год і інфармуе аб некаторых сваіх публікацыях у першым паўгоддзі г.г. Сярод іх аднатуем: В. Быкаў — «Круглянскі мост», М. Гусоўскі — «Песня пра зубра», С. Александровіч — «З варшаўскіх і пражскіх архіваў».

Ювэ




## У МАСТАЎЛЯНАХ І ЯЛОЎЦЫ

Аб Мастаўлянах у «Ніве» пісалася шмат разоў. Як вядома, нарадзіўся тут адзін з кіраўнікоў і герояў Студзеньскага паўстання — Кастусь Каліноўскі. З гэтай вялікай традыцыі ў самых Мастаўлянах нічога аднак не засталося. Каб не кніжкі, у якіх можна вычытаць пра месца нараджэння Каліноўскага, ды не прыезды журналістаў і дзеячоў, якія збіраюць аб ім звесткі, ніхто ў Мастаўлянах не ведаў бы сёння аб сваім вялікім аднавяскоўцу.

Мастаўляны належаць да адной з найлепш загаспадараваных прыгранічных вёсак. Відаць гэта нават па знешнім выглядзе хатаў і гаспадарак. Хачу пагаварыць з кімсьці з гаспадароў аб звычайных жыццёвых ды гаспадарскіх справах. Трапляю да Фёдара Гарадкевіча.

Фёдар Гарадкевіч з'яўляецца сынам парабка і сам у маладосці быў парабкам. Доўга расказвае аб жыцці дзіцяці парабка. Сумны гэта расказ. У хаце холад, вільгаць і дым, малы Федзя на печцы выглядае з-за коміна і просіць маці кавалачак хлебца. Маці злуецца, калі дзіцё перашкаджае ёй у працы пры гаршках, шпурляе са злосцю ў Федзю венікам. Адкуль жа яна возьме хлеба, калі яго няма ў хаце?

Цяпер Фёдар Гарадкевіч гаспадар на ўсю пару. Праўда, жыве ён не без клопатаў. Ажаніўся позна, у 50 гадоў, тады, калі стаўся ўжо зусім уладкаваным гаспадаром. Цяпер малыя дзеці, многа работы і клопатаў. Але Фёдар Гарадкевіч не гледзячы на 65-летні ўзрост поўны яшчэ энергіі і ахвоты да жыцця.

Бабуля — суседка, якой ужо гадоў з 80, шчыльна акутаная хусткамі, сядзіць і слухае разам са мною Фёдаравага апавядання. Потым каментуе пасвойму.

— Не было такога жыцця і не будзе, як за гэтай Польшчы. Калісьці за булкай хлеба трэба было ісці 50 кіламетраў у горад.

А потым ужо менш вясёла дадае:

— Толькі мне вось няма аніякай пацехі. У галаве ўсё толькі шум і шум. Сабака мяне, ведаеце, пакусаў і крыві сышло вельмі многа.

— Гэта хіба яшчэ летам? — пытаю.

— А не, — тлумачыць бабуля, — гэта ўжо хіба з пятнаццаць гадоў прайшло з таго часу. Але вось кроў сышла, і цяпер у галаве шуміць безупынна.

Пакідаю сябра Гарадкевіча і Мастаўляны, каб на момант наведаць яшчэ найбольшую ў гэтай ваколіцы асаду — Ялоўку. Заходжу да сядзібы Грамадскай рады нарадовай і знаёмлюся з яе сакратаром, сяброўкай Аннай Нарэўскай. Пытаю пра навіны, пра дасягненні. У адказ пані сакратар абводзіць мяне па ўсіх пакоях пабудаванай некалькі гадоў таму назад прыгожай сядзібы ГРН. Прыгожая мэбля, якой пазайздросціць можа неадно бюро ў ваяводскім горадзе, на вокнах дарагія фіранкі і багатыя абстрактнымі ўзорамі заслоны. Але вяршыняй камфорту з'яўляецца пакой, у які сакратар ГРН увяла мяне амаль з набожнай павагай. Гэта пакой, у якім адбываюцца цывільныя шлюбы, — памяшканне аддзела запісу актаў грамадзянскага стану. Апрача камфартабельнай мэблі, багатых фіранак і ўзорыстых заслонаў, знаходзіцца тут адаптар і камплект пласцінак з паланезамі,са столі звісаюць крыштальныя жырандолі, прыдаючы памяшканню адпаведны настрой. Хвалю ўсё, як умею. Пані сакратар не без задавальнення паясняе, што падбор усяго абсталявання ГРН з'яўляецца справай яе густу. Дае прытым шырэйшую аргументацыю таму, што аб знешні выгляд ГРН трэба дбаць.

— Людзі пачалі зусім інакш, з належнай павагай трактаваць справу цывільных шлюбаў. Прыходзяць у ГРН цэлымі сем'ямі, урачыста прыбраныя, з кветкамі і г.д. Гэта таксама праява грамадскага прагрэсу асады.

**Ул. Паўлючук**

**САРДЭЧНА ДЗЯКУЕМ**

**Усім арганізацыям, установам і асобам, якія прыслалі нам Навагоднія віншаванні, складаем сардэчную падзяку.**

**Рэдакцыя**




**«Выпрагайце хлопцы коней,
ды лягайце спачываць...»**

Так спяваецца ў вядомай народнай песні. У жыцці часта бывае крыху інакш. Пры нашых беластоцкіх умовах пачатак гэтай песні можна і трэба было б заспяваць так:

**«Выпрагайце хлопцы коней,
ды вядзіце прадаваць...»**

Купец чакае ў Беластоку. Добры купец, хаця ён вельмі капрызны. Абы-якога тавару не возьме. Завецца ён доўга і нязручна: **Ваяводскае прадпрыемства гандлю гадаўлянай жывёлай.**

Па заказу цэнтра замежнага гандлю сельскагаспадарчымі пладамі «Анімэкс» гэтае прадпрыемства на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства вядзе скупку коней, якія пазней адпраўляюцца ў замежныя краіны, галоўным чынам, у сонечную Італію, Францыю, Бельгію і Галандыю.

Здзіўляла гэта мяне. Навошта нашы коні Бельгіі, Галандыі? У іх жа сельская гаспадарка амаль поўнасцю ўжо змеханізавана, а жывёлагадоўля дасягнула шмат вышэйшага ўзроўню, чым у нас. Гэтае самае можа адносіцца і да Францыі, а часткова да Італіі.

У Ваяводскім прадпрыемстве мне адказалі:

— Мы не цікавімся і няма патрэбы цікавіцца, чаму і для якіх мэт купляе ў нас жывёлу замежны купец. Гэта яго справа. Мы атрымоўваем дамоўленую плату (пераважна ў доларах), і на тым канец справы.

Так прадстаўляецца афіцыйнае, службовае становішча. Яно аднак не паясняе запатрабавання на польскіх коней у краінах з высока пастаўленай сельскай гаспадаркай. І калі разгаварыліся мы па шчырасці (зусім не афіцыйна), тады я даведаўся, што нашы конікі ідуць звычайна на кансервы.

— Ім, там, відавочна, аплочваецца, — сцвярджае малады намеснік дырэктара гандлёвага прадпрыемства, — бо плацяць нам зусім нядрэнна і мы сялянам таксама. Скажам, у 1965—1966 гадах, калі наглядалася самае высокае запатрабаванне, плацілі за каня, прызначанага на бойню, у сярэднім па 12 тыс. злотых. Тады высылалі мы з нашага, Беластоцкага ваяводства, па 5 тыс. штук «буланых», «чорных» і «сівых» у год. Цяпер запатрабаванне меншае, і таму цана паменшылася, ды і з нашага боку былі ўведзены пэўныя абмежаванні. Нягледзячы на гэта, мы пастаянна перавыконваем план скупкі коней. Вось у гэтым, 1968 годзе: планавалі 800 штук, а купілі амаль 2000.

Цана каня залежыць ад таго, у які клас яго закласіфікуюць. За адзін кілаграм жывой вагі першакласнага каня селянін у залежнасці ад сезона (летам больш, зімой — менш) атрымоўвае: 14—16—18 — злотых, за другакласныя — на дзве залатоўкі менш за кілаграм і толькі на коні трэцяга класа ўтрымоўваецца нязменная цана — 10 злотых за кілаграм жывой вагі.

Якія патрабаванні для коней першага класа?

Перш за ўсё такі конь не можа мець вострага хрыбта. Роўненькі, бы столак, хрыбет — гэта дасканалая паляндвіца. Замежныя купцы звяртаюць на гэта асаблівую ўвагу. І яшчэ адно: каб конь трапіў у першы клас, ён не можа «свяціць» рэбрамі. Ёсць вось такі спосаб: на вычышчанага каня трэба паглядзець «пад сонца». Калі і ў тым выпадку нельга яму «палічыць» рэбраў, значыць, усё ў парадку.

Асаблівым поспехам у замежных купцоў карыстаюцца конікі сакольскай пароды. Здараецца аднак і інакш. Вось аднойчы з'явіўся ў Беластоку купец з Індыі. Сапраўдны індус. У турбане. І добры знаток сваёй прафесіі — лекар-ветэрынар. Хацеў у Польшчы купіць 300 кабылак. Меў асаблівыя патрабаванні: каб гэтыя кабылкі былі невысокія, а тоўсценькія. Там, у далёкай Індыі, вырашыў ён іх «павянчаць» з муламі. Ездзіў тады па цэлай краіне, прыглядаўся, мераў, абшчупваў. І найбольш удана павялося яму ў нас, на Беласточчыне. Выбраў тут аж 200 кабылак, якія, паводле яго ацэнкі, якраз падыходзілі ў кандыдаткі на «жонак» для індускіх мулаў.

Сяляне Беластоцкага ваяводства на продажы коней у 1968 годзе зарабілі 65 мільёнаў злотых. **М. Нурэцкі**

## ПАСЯДЖЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП

**30 снежня м.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Прысвечанае яно было абмеркаванню выдавецкай дзейнасці беларускага і літоўскага таварystваў. Справаздачу з гэтай дзейнасці зложылі сакратары галоўных праўленняў БГКТ і ЛГКТ. З увагі на маштабы выдавецкай дзейнасці, большасць увагі прысутных была звернута на выдавецтвы БГКТ. Яны ў асноўным былі ацэнены станоўча. Унесена было таксама шмат каштоўных прапаноў адносна далейшага ўдасканальвання выдавецкай дзейнасці нацыянальных таварystваў. Між іншым дыскутанты звярталі ўвагу на неабходнасць у нашай выдавецкай дзейнасці доўгатэрміновага плана, на патрэбу паляпшэння графічнага боку выданняў БГКТ, на неабходнасць скарачэння вытворчага цыкла і павелічэнне фінансавых сродкаў на выдавецтвы, на патрэбу пакліканне пры ГП БГКТ калектыву спецыялістаў, якія займаліся б ацэнкай зместу і формы ўсіх выданняў БГКТ.**

**Як падкрэсліў у падсумаванні старшыня Камісіі тав. Збігнеў Дамброўскі, дыскутанты праявілі вялікія клопаты за далейшае развіццё выдавецкай дзейнасці нацыянальных таварystваў.**

**Камісія на гэтым пасяджэнні прыняла таксама план працы на першае паўгоддзе 1969 г. Прадбачвае ён: ацэнку лектарскай дзейнасці за 1968—69 гады, абмеркаванне працы нацыянальных таварystваў у збіранні і развіцці рэгіянальнага фальклору і абмеркаванне становішча ў нацыянальным школьніцтве ў Беластоцкім ваяводстве. (рл)**

Нацыянальныя справы

# ЛЭМКІ

Некалькі разоў мы ўжо інфармавалі чытачоў на старонках «Нівы» аб публікацыях А. Квілецкага, прысвечаных нацыянальным меншасцям у Польшчы. Тым разам апублікаваў ён у апошнім томе гадавіка «Etnografia Polska (t. XII)» артыкул пад загалоўкам «Aktualne zagadnienia etniczne Łemków w Polsce». (Актуальныя этнічныя праблемы лэмкаў у Польшчы).

Лэмкі, як вядома, з'яўляюцца адгалінеnnем украінскага люду і да 1947 года пражывалі на тэрыторыі Бескідаў. У 1947 годзе яны былі перасэлены ў рамках так званай акцыі «Вісла» на Заходнія землі Польшчы.

Квілецкі сцвярджае, што перад перасяленнем Лэмкаўшчына знаходзілася на этапе інтэнсіўных працэсаў дазравання пачуцця нацыянальнай прыналежнасці. На Лэмкаўшчыне крыжаваліся рускія, украінскія, аўстрыяцкія і польскія палітычныя ўплывы. Аўтар прабуе адказаць на пытанне, які характар мае цяпер нацыянальная прыналежнасць лэмкаў, пражываючых на Заходніх землях Польшчы. На пытанне гэтае Квілецкі шукае адказу з пункту гледжання розных грамадскіх груп і катэгорый: палякаў, якія пражываюць разам з лэмкамі, лэмкаў старэйшага і малодшага пакалення, а таксама лэмкаўскіх дзяцей. Вывады свае робіць ён на падставе аналізу матэрыялаў анкетнага характару. З прыведзенага матэрыялу вынікае, што палякі, асабліва тыя, што самі з'яўляюцца рэпатрыянтамі з усходу, найчасцей лічаць лэмкаў украінцамі. Наадварот самі лэмкі — лічаць сябе перад усім лэмкамі і ў рашаючай большасці не хочуць акрэсліваць сябе украінцамі. Аўтар звяртае ўвагу на выступаючыя штораз часцей сярод лэмкаў наступныя адносіны: «З'яўляюся лэмкам, але адначасова і палякам», азначаючыя прыналежнасць да лэмкаўскай этнічнай групы і да польскага народа.

Асабліва цікавыя вынікі доследаў аўтара, праведзеныя ў школах сярод лэмкаўскіх дзяцей, паказваючыя працэсы інтэграцыі лэмкаў з польскай культурай. Аўтар даходзіць да вываду, што ўдзел у лэмкаўскай культуры, якая для дзяцей з'ўляецца выключна культурай сямейнага і дамашняга жыцця, апознівае, але не перашкаджае ўдзелу гэтых дзяцей у польскім жыцці і засвойванні моладдзю дасягненняў і вартасцей польскай нацыянальнай культуры.

У заканчэнні артыкула аўтар пераходзіць да аналізу праблемы гэтак званага «нацыянальнага дуалізму» сцвярджаючы, што лэмкі ў Польшчы з'ўляюцца людзьмі дзвюх нацыянальнасцей: польскай і ўкраінскай, ці польскай і лэмкаўскай. Гэтая частка артыкула выклікае пэўныя засцярогі, вынікаючыя перад усім з таго, што аўтар вельмі нядбайна падыходзіць да ўсяго тэрміналагічнага апарату. У артыкуле ні слоўцам не сказана, што аўтар разумее пад паняццямі «народ» і «нацыянальнасць», а з тэксту відаць выразна, што паняццямі гэтымі акрэслівае ён рэчы вельмі розныя і неаднародныя. Пры такой бестурботнасці ў падыходзе да тэарэтычнага апарату аналізу цяжка спадзявацца трапных вывадаў. Артыкул аднак цікавы не па сваіх канчатковых вывадах, а па зграмаджаным там канкрэтным матэрыяле.

У. П.



## З БЕЛАРУСКАЙ ВЫСТАЎКІ Ў ВАРШАВЕ

**Як мы ўжо інфармавалі, у снежні з нагоды 50-годдзя БССР у Доме тэхнікі ў Варшаве была адкрыта выстаўка беларускіх тэхнічных выдавецтв і вырабаў народнага мастацкага рамяства. На здымку: у час наведання выстаўкі, беларускія народныя вырабы аглядаюць маршал Сейма Чэслаў Выцэх і старшыня Польскай акадэміі навук Януш Грашкоўскі.**

**Фота: ЦАФ — Росяк — тэлефота.**

# ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

Світала. Праз чырванаствольныя сосны стрэліў першы праменьчык сонца. Дзяўчынка стаяла, зачараваная хараством прыроды, глядзела на зялёныя вяршыні, дзе ўсімі колерамі вясёлкі загарэлася густая раса. Палотны павуціння зіхацелі і пераліваліся казачнымі ўзорамі. Гэтыя незабыўныя ўспаміны маленства на ўсё жыццё засталіся ў памяці Канстанцыі Антонаўны Буйла.

Калі ж дзяўчынцы мінула чатырнаццаць гадоў, падслуханы шум лесу, звон серабрыстых рэчак, шэпт квяцістых лугоў і палёў вылiліся ў простую песеньку:

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Не толькі краса прыроды, не толькі хараство Радзімы, а і лёс працоўнага народа глыбока хваляваў маладую паэтэсу. І ў самыя юныя гады, калі наўкол было столькі гора, пакут, песня Канстанцыі Буйла ўзышла суроваю праўдаю жыцця:

Гэта вырваўся стогн з набалелай душы
І расплыўся кудысь сярод сумнай цішы,
І паплыў ён у даль,
І таіўся ў ім жаль.
Скаргай ціхай паплыў
Між калосістых ніў, —
То не песня мая,
Не пяю гэтак я.

Не плакаць збіралася паэтэса. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка далі гарт пратэсту і барацьбы маладой Канстанцыі.

Мы — вольныя арлы, радзімы нашай дзеці,
Хто мае права нас нявечыць, зневажаць?
Мы — вольныя арлы, з адвагай і надзеяй
Мы волю к барацьбе павінны прабуджаць
За шчасце, за жыццё!
І хай ніхто не смее
Магутную руку бяссільна апускаць!..

Канстанцыя Буйла напісала свой першы верш, калі ёй споўнілася дзесяць гадоў. Янка Купала заўважыў таленавітую дзяўчынку і ўсямерна дапамагаў ёй творча расці і неўзабаве прысвяціў ёй верш «Мая думка». Ён вучыў маладую паэтэсу выбіраць дарогу ў будучыню, не адрывацца ад зямлі:

На небе свабода, святло і прыволле, —
А думцы замала: няма там людзей;
Людзей на зямельцы спаткае даволі,
Ды сонца і воля не свецяць тут ёй...

У 1914 годзе выйшаў першы зборнік вершаў К. Буйла «Курганная кветка». Паэтэса ў сваёй аўтабіяграфіі кажа, што Янка Купала працаваў над яе кніжкай з такім жа замілаваннем, як над сваёй.

У беларускую літаратуру ўваходзіла таленавітая пісьменніца, якая з юных год пазнала суровае жыццё. Каб зарабіць на кавалак хлеба, яна настаўнічала ў пачатковай школе, загадвала беларускім кніжным магазінам у Полацку.

Пасля Вялікага Кастрычніка Канстанцыя Буйла жыве ў Маскве. Зрэдку прысылае вершы свайму настаўніку Янку Купалу, у часопіс — «Полымя». І так жа да Вялікай Айчыннай вайны. Людское гора, здратаваная, стаптаная, акрываўленая зямля Радзімы, подзвігі савецкіх людзей ускалыхнулі пачуцці паэтэсы. Яна дае гарачы наказ сваім песням:

Будзьце куляй, бомбай, мінай і гранатай,
І штыком, і сілай для байца ў баю!
І павязкай мяккай у байца на ране,
І крыніцай чыстай, як захоча піць,
Ласкай і спакоем, спачываць як стане,
Словам — тым, чым толькі песня можа быць.

Вершы перыяду Вялікай Айчыннай вайны, калі «ў жудаснай халоднай цьме мы гора бачылі і слёзы», ператварыліся ў заклік, у мацярынскі наказ байцам-салдатам.

У лютым месяцы 1959 года Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (жонка Янкі

 

# ПРАЦЯГ ЗМА-ГАННЯ

(Працяг са стар. 1)

нават у адміністрацыі? Гэта значыць, дапамога рэакцыйнаму падполлю ў знішчэнні тых, якія арганізоўваюць народную адміністрацыю.

У Боцьках быў здраднікам войт гміны. І вось аднойчы Хведар Савіцкі разам з начальнікам бельскай бяспекі Антонам Панькоўскім неспадзявана заязджаюць у гміну і робяць рэвізію. Савіцкі глядзіць на войта і заўважае, што ён сціскае і пацірае аб вопратку нейкую паперку.

— Я схапіў войта за руку, — успамінае Хведар Савіцкі, — і аказалася, што гэта была інструкцыя ад бандытаў.

А рэакцыйнае падполле ў тым часе асабліва здзекавалася над насельніцтвам. Хацела яно прымусіць, каб насельніцтва адмовілася ад падтрымкі народнай улады. Каб дасягнуць таго, пачалі пацыфікаваць вёскі. У маі 1945 года атрад «Лупашкі» спаліў вёску Вілюкі (цяпер Гайнаўскі павет). 29 студзеня 1946 года атрад НЗВ «Бурага» спаліў вёскі Залешаны і Выганоўскую Вольку каля Кляшчэляў, 2 лютага 1946 г. — вёскі Шпакі і Зані каля Браньска і 3 лютага — вёску Канцавізна (цяпер павет Лапы).

Людзі бяспекі пры дапамозе войска грамілі банды. А банды мсціліся на ўсіх, хто не толькі вёў узброеную барацьбу з імі, але і хто аказваў падтрымку народнай уладзе. Аднойчы, у час паездкі самаходам да Аўгустова, непадалёк ад Монек, Хведар Савіцкі са сваімі супрацоўнікамі ўбачылі на шашы плачучага хлапца, які махаў рукамі і прасіў затрымацца.

— Майго бацьку катуюць бандыты, — ледзь прамовіў хлопчык. — Ратуйце нас!

— Усе разам пайшлі мы туды, але ўжо бандыты ўцяклі. Ледзь жывы бацька гэтага хлапца сказаў, што гэта суседзі яго выдалі бандытам. І ў гэтых суседзяў працаўнікі бяспекі ў вуллях знайшлі шмат зброі.



Кадры органаў бяспекі патрэбныя былі не толькі на Беласточчыне, але і ў новавызваленых мясцовасцях, гарадах і ваяводствах. І Хведар Савіцкі намагаўся як найбольш звербаваць сюды людзей. І таму ездзіў вербаваць кадры ў Саколку, Бельск, Гайнаўку, Гарадок, Аўгустуў, Сувалкі, Лодзь. Звербаваныя ім людзі вызначаліся стойкасцю і мужнасцю. У час рэферэндума і выбараў у Сейм органы бяспекі асабліва моцна дапамаглі дзяржаве, абараняючы выбарчыя пункты ад нападаў банд.

Хведар Савіцкі працаваў начальнікам кадраў ваяводскай бяспекі ў Беластоку, у Ольштыне і Катавіцах.

Ад 1962 года з'яўляецца пенсіянерам. Але і цяпер мае шмат грамадскіх функцый. А вось некалькі найважнейшых: член камісіі па раздзелу памяшканняў пры прэзідыуме Гарадской рады нарадовай, член камісіі да спраў дзеячаў рабочага руху пры КВ ПАРП, старшыня верыфікацыйнай камісіі Ваяводскага праўлення ЗБОВіД. Грамадскімі справамі кожны месяц займаецца ён не менш 15-ці дзён.

**М. Хмялеўскі**

---

**Міжшкольны конкурс на 25-годдзе НВП**

# ВЫНІКІ І ЖМЕНЬКА РЭФЛЕКСІЙ

Міжшкольны конкурс, арганізаваны з нагоды 25 гадавіны Народнага Войска Польскага, Кураторыяй школьнай акругі і ГП БГКТ у Беластоку, вырашаны. На конкурс уплыло 57 вучнёўскіх прац. Конкурсная камісія, у складзе якой былі: **Уладзімір Юзвюк** — сакратар ГП БГКТ, **Стэфан Кенска** — візітатар Куратарыі, **Яніна Чэрнякевіч** — рэдактар «Зоркі» і **Аляксей Карпюк** — публіцыст «Нівы», правяла ацэнку паасобных прац і прызнала ўзнагароды.

**У катэгорыі групавых** прац дзве **першыя ўзнагароды** атрымалі вучні VII і VIII класаў пачатковай школы ў **Навасадах,** Гайнаўскі павет, і вучні VII класа са **школы № 3 у Бельску Падляшскім. Другую** ўзнагароду атрымалі вучні пачатковай школы ў **Орлі, трэцюю** — са **Старакорніна і чацвёртую** — вучні пачатковай школы ў **Барысаўцы.**

**Першае месца ў катэгорыі індывідуальных** прац прызнана **Мікалаю Балтручуку** вучню пачатковай школы ў Войшках, Бельскі павет, **Валі Цэтра** са школы ў Орлі, **Аліне Высоцкай** з пачатковай школы ў Вілінаве, Сямяціцкі павет, **Мікалаю Сахарчуку** са школы ў Навакорніне, Гайнаўскі павет, і **Тамары Сац** з пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы. Камісія прызнала ўзнагароды за 7 другіх месц і 27 прац адзначана і ўзнагароджана не прызнаючы месц.

Што можна сказаць аб конкурсе? Агульна кажучы, конкурс споўніў пастаўленыя перад ім мэты. Кожная з 57 прац прынесла нешта іншае, своеасаблівае, але звязанае з вялікай гадавінай, юбілеем Народнага Войска Польскага. Вучні пісалі аб сустрэчах з воінамі, з людзьмі іх вёсак, якія змагаліся ў партызанах ці ў радах Войска Польскага з гітлераўскімі захопнікамі. Апісвалі, як адзначалі славуты юбілей. Урыўкі некаторых прац будзе друкаваць «Зорка». Аб конкурсных працах трэба сказаць і тое, што адны з іх былі напісаны лепш па-беларуску, у іншых шмат памылак, паланізмаў, русізмаў і іншых «ізмаў». А трэба ведаць, што адна з галоўных мэт конкурсу — гэта таксама чысціня беларускай мовы.

Хочацца скіраваць словы падзякі тым, якіх камісія не ацэньвала, настаўнікам беларускай мовы, дзякуючы якім былі прысланы вучнёўскія працы. На жаль, іх не надта многа. З прыкрасцю сцвярджаем, што ў конкурсе прынялі ўдзел вучні толькі 13-ці пачатковых школ, гэта значыць, з **Бельска № 3, Гайнаўкі № 2, Орлі, Вілінава, Старакорніна, Навакорніна, Навасад, Барысаўкі, Войшкаў, Чэхаў Арлянскіх, Валілаў (вёска), Волькі Нурэцкай і Дубіч Царкоўных.** Ні аднюсенькай працы не прыслалі на конкурс вучні ліцэяў.

Можна мець таксама пэўныя заўвагі ў адрас арганізатараў. Менавіта справа ў тым, што правілы (рэгулямін) конкурсу былі вельмі недакладныя, з чым мела клопаты не толькі камісія, але, судзячы па разнастайнасці прац, вучні і настаўнікі. Асноўнай справаи было напісанне справаздачы аб святкаванні 25 гадавіны Народнага Войска Польскага, а не ўсяго таго, што ведае вучань аб Войску Польскім. А справаздач, як такіх, амаль не было. Цяжкасці выступалі таксама з ацэнкаю групавых прац і індывідуальных, таму што правілы конкурсу і ў гэтым напрамку ясна нічога не гаварылі.

Арганізатары міжшкольных беларускіх конкурсаў прынялі гэтыя заўвагі, каб у будучыні не паўтарыць памылак. Нам астаецца пажадаць удзельнікам конкурсу, каб як найлепш карысталіся ўзнагародамі.

А. Л.

---

Купалы) пазнаёміла мяне з Канстанцыяй Буйла. Гэта знаёмства было для мяне надзвычай прыемным. Мяне сёння здзіўляе празмерная сціпласць паэтэсы. Пражыла яна столькі цяжкіх і радасных дзён, узбагаціла сваімі творамі беларускую літаратуру, мела столькі сустрэч з вядомымі людзьмі свайго часу, а ў сваёй аўтабіяграфіі вельмі ж мала і коратка расказала пра сябе. І калі я ў адным з пісем прыгадаў, што наш чытач чакае ад яе шырокай і поўнай біяграфіі, дык Канстанцыя Антонаўна кароценька расказала пра тое, чым яна жыве сёння, а пра мінулае сказала ўсяго некалькі слоў. «Новага прыбавіць няма чаго. Даўно ўсё гэта было — падрабязнасці ўжо зніклі з памяці».

Канстанцыя Буйла зараз працуе над новымі вершамі, рыхтуе збор сваіх твораў.

«Шмат аб чым, можа і цікавым, што было ў маім жыцці, я не расказала», прызнаецца яна сваім чытачам. Канстанцыя Буйла яшчэ раскажа пра нашы слаўныя дні, не раз усхвалюе нашы сэрцы паэтычным шчырым словам, тым словам, у якім няспынна пульсуе любоў да Радзімы, да народа.

(З кніжкі «Вяртанне ў маладосць»)

---




**К.М. з Бельска піша: «Я закончыла СПР і зараз працую ў кіёску. Маю 22 гады. Хачу вучыцца завочна ў сельскагаспадарчым (ральнічым) тэхнікуме. Прашу парады: ці можна яшчэ ў гэтым годзе паступіць вучыцца, а калі так, дык у якім часе пачнецца навука? Дзе найбліжэй знаходзіцца такая школа? Ці трэба здаваць экзамены і па якіх прадметах?»**

АДКАЗ: Завочныя і карэспандэнцыйныя тэхнікумы прыймаюць кандыдатаў ад 17 год. Апрача таго, кандыдат павінен прадставіць скіраванне з месца працы на навуку ў тэхнікум, або з рады нарадовай (напрыклад, ГРН), што кандыдат працуе на гаспадарцы бацькі або сваёй уласнай. Трэба таксама далучыць пасведчанне заканчэння СПР. Можа быць арганізаваны экзамен, калі колькасць кандыдатаў перавышае колькасць месц. Абавязвае экзамен пісьмовы і вусны па польскай мове і матэматыцы па праграме навучання ў СПР.

У Беластоцкім ваяводстве ёсць два карэспандэнцыйныя сельскагаспадарчыя тэхнікумы, якія прымаюць кандыдатаў пасля СПР:
Korespondencyjne Technikum Rolnicze, Białystok-Dojlidy, ul. Fabryczna 26 i Różanystok, pow. Dąbrowa Białostocka.

Навука ў тэхнікумах працягваецца 3 гады семестральнай сістэмай. На навуку можна паступіць ад 1 лютага і ад 1 верасня. У Беластоку мяне паінфармавалі, што на 1 лютага 1969 года ёсць ужо поўны камплект кандыдатаў, і што можна старацца паступіць сюды ад 1 верасня 1969 года. Апрача таго, раю асабіста скантактавацца з дырэкцыямі вышэй указаных тэхнікумаў.

**Г. А. з Сакольшчыны.** У адказ на вашае пісьмо інфармую, што існуюць тэхнікумы як з галіны механікі, так і радыётэхнікі. З вашага пісьма зразумеў, што вы скончылі 7 класаў пачатковай школы і што пытаецеся пра тэхнікумы, а не «засадні чыя» школы. Таму мая парада будзе датычыць выключна тэхнікумаў. Што датычыць радыётэхнічнай і тэлевізійнай спецыялізацыі, дык у Беластоцкім ваяводстве завочнага аддзялення няма, але найбліжэйшае ёсць у Гданьскім Gdańsk, ul. Podwale Staromiejskie 51/52, Technikum Łączności Zaoczne.

У Беластоцкім ваяводстве ёсць такія завочныя тэхнікумы, як: Wydział Zaoczny Technikum Mechanicznego, Białystok, ul. W. Broniewskiego 14, — elektroenergetyka i eksploatacja i remont samochodów. Korespondencyjne Technikum Mechanizacji Rolnictwa, Supraśl, ul. Konarskiego 4. Навука ў тэхнікумах працягваецца 5 год і дзеліцца на 10 семестраў. Дакладныя інфармацыі атрымаеце з дырэкцыі вышэй паданых школ.

**Дарадчык**

Маеш якія-небудзь пытанні ці клопаты — пытай і райся з «нашай поштай».

---

## Калектыўныя паетаўкі штучных угнаенняў

Штораз часцей сельскагаспадарчыя гурткі прыходзяць з дапамогай сялянам у пакупцы і транспарце штучных угнаенняў. У 1968 годзе аж 419 сельскагаспадарчых гурткоў і міжгурткоўскіх машына-трактарных баз наладзіла калектыўную пастаўку штучных угнаенняў з гээсаўскіх складаў на сялянскія палі або на сялянскія панадворкі.

Некаторыя сельскагаспадарчыя гурткі (у ваяводстве налічвалася іх 185) пастаўку штучных угнаенняў арганізавалі поўнымі вагонамі.

Такім чынам даст аўлена сялянам у 1968 годзе 16 тысяч тон штучных угнаенняў. У наступным гаспадарчым годзе калектыўныя пастаўкі штучных угнаенняў павялічацца ў 6 разоў.

(вр)

---




**ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ**

**Ужо за даваенныя гады Беларусь зрабіла гістарычны скачок да індустрыяльнага прагрэсу. Было пабудавана болей як 1700 новых прамысловых прадпрыемстваў, рэканструяваны транспарт. Асаблівая ўвага надавалася развіццю галін цяжкай прамысловасці. Разам з усёй краінай Беларусь стала на шлях поўнай індустрыялізацыі. Выпрацоўка электраэнергіі ў рэспубліцы перавысіла ўзровень 1913 года ў 169 разоў, а прадукцыя металаапрацоўчай прамысловасці — у 58 разоў.**

**У сувязі з бурным развіццём прамысловасці рэспублікі бесперапынна растуць рады рабочага класа, павышаецца яго ўдзельная вага ў колькасным складзе насельніцтва. У 1913 годзе ў Беларусі налічвалася ўсяго 38,5 тысячы рабочых, а ўжо ў 1940 годзе іх было звыш мільёна. У 1966 годзе гэтая лічба дасягнула двух з палавінай мільёнаў.**

**Паспяховае правядзенне індустрыялізацыі дало магчымасць перабудаваць і сельскую гаспадарку. Да пачатку вайны ў рэспубліцы было створана 316 машына-трактарных станцый, у якіх налічвалася 10 тысяч трактараў, 1700 камбайнаў і тысячы іншых сельскагаспадарчых машын. Саха і каса адыйшлі ў нябыт. З дапамогай тэхнікі селянін пайшоў у рашучае наступленне на спрадвечную багну. У хуткім часе было адваявана ў балот 270 тысяч гектараў урадлівай зямлі, на якой закаласілася збажына.**

**Рабочы і селянін у адным саюзе будавалі новае жыццё. Стваралася новая культура, раслі кадры інтэлігенцыі. Была поўнасцю ліквідавана непісьменнасць. У Мінску адкрылі дзверы першыя 10 вышэйшых навучальных устаноў і навукова-даследчых інстытутаў, 17 тэхнікумаў. У народную гаспадарку прыйшло працаваць больш дваццаці тысяч спецыялістаў.**

**Вераломны напад германскіх імперыялістаў спыніў плённае развіццё Беларусі. За час варожай акупацыі гітлераўцы знішчылі прамысловы патэнцыял рэспублікі, на многіх важнейшых галінах адкінулі яе да ўзроўню 1913 года. І зноў рабочы клас разам з усім беларускім народам здзейсніў гераічны подзвіг: адрадзіў да жыцця прамысловасць не толькі колькасна, але і якасна. Асаблівае развіццё набыла такая вядучая галіна прамысловасці, як машынабудаванне і металаапрацоўка. Аб гэтым — за тыдзень.**



 

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ



Старая і новая Масква. «Сёмае Неба» ўладкавана больш-менш у палове тэлевізійнай вежы.

## КУЛІНАРЫЯ

### Смачныя катлеты

Каб катлеты атрымаліся смачныя і сакавітыя, на 500 грамаў мяснога фаршу трэба пакласці кавалак булкі, намочаны ў халоднай вадзе або ў свежым малацэ, адну сырую бульбіну, надзёртую на дробнай тарцы, і 2 яйкі.

### Усё аб бульбе

Каб бульба пры варцы не растрэскалася, накаліце яе ў некалькіх месцах відэльцам.

*

Пры абіранні бульбы або фруктаў рукі цямнеюць. Патрыце іх разрэзаным чырвоным памідорам або лімонам.

*

Калі вы незнарок перасалілі суп, апусціце ў яго ababranую і нарэзаную вялікімі кавалкамі бульбу, якая ўбярэ ў сябе лішнюю соль. Дастаньце яе з супу перш чым яна паспее зварыцца.

## САМ

### Тытунёвы дым

Пах тытунёвага дыму лёгка выдаліць, калі ў пакоі на ноч падвесіць змочаны ў вадзе махнаты ручнік або губку.

### Пазногці

Каб вакол пазногцяў не ўтваралася завусеніц, часцей змякчайце скуру рук вазелінам, духмяным гліцэрынам або крэмамі. Мыючы рукі, скурку вакол пазногцяў старайцеся адсунуць.

Рэклама — рычаг гандлю

## ЯДОМАЯ ЎПАКОЎКА

Заўважана, што ўпакоўка харчовых прадуктаў пад вакуумам больш вабіць пакупніка, калі яна празрыстая і не мяняе колеру прадукту. Аднак такая ўпакоўка часта мае нязручнасці: здараецца, што бывае цяжка дастаць прадукт з сінтэтычнага матэрыялу, у які ён запакаван. Тэхнікі амерыканскай фірмы «Фішэс Продактс Ко» прапаноўваюць простае вырашэнне гэтага пытання. Яны распрацавалі ўзор бясколернай ядомай упакоўкі, якая не прапускае тлушч і кісларод (значыцца, зусім бясшкоднай) і не выклікае ніякіх рэакцый з боку хімічных элементаў, што ўваходзяць у састаў харчовых прадуктаў — вугляводаў, тлушчу, кіслот. Амерыканскі інстытут аховы здароўя даў сваю згоду на выкарыстанне гэтага новага ядомага матэрыялу. Упакоўка складаецца з бясшкодных для арганізма плёнак амілазы, якія лёгка перастраўляюцца страўнікам і цалкам выдзяляюцца кішэчнікам. Плёнка, якая распыляецца на ўпакоўваемых прадуктах (рыбе, каўбасных вырабах, абязводжаных прадуктах, фруктах, гародніне, мясе, сухіх прадуктах) або нацягваецца на іх пад ціскам, пры варцы расплаўляецца ці то ў гарачай вадзе, у тлушчы, ў алеі або проста на агні. Ёсць і яшчэ адна перавага: сабекошт ядомай упакоўкі амаль удвая меншы за кошт класічнага ўпаковачнага матэрыялу з пластыку.

## ТЭХНІКА

### Рух «Без нічога»

На адной з навуковых выставак у Англіі ўсеагульнае захапленне выклікаў своеасаблівы «вечны рухавік». Насаджаны на вось дыск няспынна круціўся без усялякіх прыкметных прычын, быццам сам па сабе. Разглядаць гэты «фокус» неспецыялісту і сапраўды нялёгка. А між тым у ім няма нічога складанага. Вобад дыска пакрыт слоем паўправадніковага матэрыялу, які прыцягваецца магнітам у залежнасці ад якасці яго асвятлення. Чым ярчэйшае святло падае на вобад, тым мацней ён прыцягваецца магнітам, які служыць падстаўкай прыбора. Дыск закрыт ад святла такім чынам, каб магніт увесь час паварочваў да сябе асветлены ўчастак яго вобада. Вось магніт прыцягнуў вобад, дыск павярнуўся, гэты яго ўчастак трапіў у цень і перастаў прыцягвацца, затое наступны аказаўся на святле, і яго, у сваю чаргу, прыцягнуў магніт. Такім чынам, дыск няспынна круціцца.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Светафор прамоўцы

На пасяджэннях брытанскага таварыства за бяспеку руху перад трыбунай стаіць светафор. Прамоўца пачынае гаварыць пры з'яўленні зялёнага святла. Жоўтае святло напамінае яму, што неабходна закругляцца. Пры чырвоным жа святле выступаючы павінен неадкладна пакінуць трыбуну.

## „СЁМАЕ НЕБА"

Нядаўна здадзены ў карыстанне рэстаран, уладкаваны на найвышэйшым будынку свету — тэлевізійнай вежы ў маскоўскім раёне Астанкіна. Два гады назад рэдакцыя «Вячэрняй Масквы» аб'явіла конкурс на назву рэсторана. Сярод шматлікіх прапаноў, выбрана назву, якую прапанавалі 150 чытачоў — «Сёмае Неба».

«Сёмае Неба» знаходзіцца на вышыні 337 метраў над дахамі Масквы, аднак язда ліфтам трывае толькі 58 секунд. У трох залах, якія пабудаваны адна над другой, «Сёмае Неба» можа змясціць 240 асоб. З гэтай вышыні адкрываецца цудоўная панарама Масквы і падмаскоўя. Яна тым больш цікавая, што столікі прымацаваны да рухаючайся падлогі, якая на працягу паўгадзіны выконвае поўны абарот навокал восі вежы. У ветраныя дні перахіл вежы можа даходзіць нават да... 3 метраў, аднак ён для наведвальнікаў «Сёмага Неба» слаба адчувальны.



Адна з трох рэстаранных залаў. Афіцыянткі «Сёмага Неба» носяць мундзіры сцюардэс.

## Чэрць стагоддзя назад




## УМАЦОЎВАЕМ СУВЯЗІ

Праца разгортвалася шчасліва. У Дубне ў хатах Рыгора Гуральчука і Барташука наладзілі мы свайго роду лабараторыю. Там рабілі мы фальшывыя дакументы: аўсвайсы, арбайтаўсвайсы, бэшэнігунгі, пячаткі, штэмпелі і г.д. Бланкі гэтых дакументаў атрымлівалі мы з амтскамісарыята ў Боцьках. Дастаўляў іх райхсдойч Уладзіслаў Рынанс, з якім навязалі мы сувязь. Фатаграфічны матэрыял атрымлівалі мы з Бельска ад працаўніка шуцпаліцай Юзэфа Матушэўскага, якога Косця прыцягнуў да супрацоўніцтва. Такім чынам, пры дапамозе зробленых намі дакументаў, у нашай арганізацыйнай сетцы з'явілася значная група «фольксдойчаў», «раіхсдойчаў» і ім падобных.

Даспеў час падабраць і выслаць у Беласток чалавека, які змог бы знайсці давераных асоб, прыцягнуць іх да супрацоўніцтва, паставіць перад імі канкрэтныя заданні. Выбар паў на былога працаўніка палітычнага апарату Савецкай Арміі Паўла Макаравіча Міхайленка, які выступаў пад прозвішчам Марушэнка. Жыў ён непадалёк Бельска ў вёсцы Праневічы ва ўдавы Шурбах і працаваў у якасці парабка. Меў педагагічную адукацыю, ведаў нямецкую мову, дастаткова добра гаварыў і па-польску. Быў скромны, спакойны, стрыманы і прыстойны. Выбраў сабе псеўданім «Паўлік». Атрымаўшы фальшывыя пашпарты, выстаўленыя на прозвішчы Барташэвіч і Клімчэўскі, у снежні 1943 года выехаў у Беласток. У першую чаргу меў ён у Беластоку знайсці Хведара Савіцкага, даваеннага дзеяча КПЗБ, які з першых дзён нямецкай акупацыі скрываўся. Савіцкі ўжо ў пачатку 1942 года ўтрымліваў кантакт з Забалотным і Верашчагіным у Бельску, арганізаваў у вёсцы Чарапкі, Бельскага павета, канспірацыйныя нарады былых членаў КПЗБ, якія цяпер уваходзілі ў Антыфашысцкі камітэт. Пасля масавых арыштаў членаў арганізацыі, тыя, што засталіся, пайшлі ў Белавежскую пушчу і стварылі там партызанскі атрад імя Дзяржынскага, а Савіцкі выехаў у Беласток.

Савіцкага Паўлік адшукаў без большых цяжкасцей. Савіцкі паходзіў з Праневіч. Тут жыла і яго сястра. Паўлік ведаў яго яшчэ перад выездам у Беласток. Мы разлічвалі, што Савіцкі не сядзіць у Беластоку з заложанымі рукамі. Разлічвалі на яго дзейнасць, яго кантакты. Гэта аблегчыла б выкананне пастаўленых задач. Так яно і было.

У міжчасе сувязь з Косцем у Бельску была пастаянная. Надыходзілі паведамленні, што ён здабыў да супрацоўніцтва шмат людзей. Перадаваў ён нам вартасную інфармацыю. Яго асноўная ўвага, згодна з нашымі інструкцыямі, была сканцэнтравана на асобе гестапаўца Віта.

Гаспадыня Віта, Фалькоўская, дакладна выконвала заданні Косці. З атрыманых ад яе інфармацый выходзіла, што Віт быў чалавекам інтэлігентным, валодаў шматлікімі мовамі: польскай, нямецкай, рускай, французскай, англійскай і італьянскай. У 1941 годзе пасля ўзяцця гітлераўцамі Брэста, быў вызвалены з турмы. Прыняў прапанаваную ў гестапе працу і быў накіраваны ў Бельск. Праз Фалькоўскую вывучылі мы характар гестапаўца, яго спосаб жыцця, погляды, слабасці. Віт не хваліў метадаў, якія прымяняла гестапа, яго абуралі катаванні і забойствы. Быў незадаволены працай, якую выконваў. З працы вяртаўся знерваваны, упіваўся. Упіўшыся, клікаў да сябе жонку і дочкі, якіх вельмі любіў, а якія былі недзе ў Сібіры.

Хобі Віта была гульня ў шахматы. Не меў аднак роўнага сабе партнёра. Гестапаўцы не гулялі ў шахматы. У горадзе былі шахматысты, але ніводзін з іх не хацеў вязацца з гестапаўцам. Віт спрабаваў вучыць Фалькоўскую, але тая была дрэннай вучаніцай і гульня з ёю выводзіла Віта з нерваў.

Данясенні Косці абмяркоўвалі мы ў хаце Хількевіча.

— Што ты аб усім гэтым думаеш, Валодзя? — пытаўся мяне Нячаеў.

— Трэба выкарыстаць яго шахматныя хобі. Найлепшым партнёрам будзе сам Косця. Гуляе дасканала. Звязаць іх не будзе цяжка, возьме на сябе гэта Фалькоўская. Яна мае на яго ўплыў не толькі як гаспадыня, спяць у адным ложку.

Партызанскі жывы тэлеграф перадаў Косці новую шыфроўку. Заданне было

# ТРЫБУНА чытачоў

## «ЗЯМЛЯ»

Паўлаўскі драмгурток у апошнім часе падрыхтаваў п'есу Юркі Геніюша «Зямля». З ёю выступаў на павятовым аглядзе драмгурток БГКТ у Орлі. Трэба падкрэсліць, што паўлаўскія самадзейнікі ў мінулым годзе дабіліся высокага мастацкага ўзроўню. (мх)


Сцэна з п'есы «Зямля».

## ВЫКАНАНЫ ПЛАН

Ад ліпеня да канца мінулага года грамада Храбалы выканала зацверджаны паветам план закупкі мінеральных угнаенняў. На асобае падкрэсленне заслугоўваюць жыхары вёскі Малыя Грынявічы, якія калектыўна, амаль усёй вёскай ездзілі ў Бельск па мінеральныя ўгнаенні. А вёскі Плёскі і Рэпнева занядбоўваюць, не дацэніваюць тэрміновы закуп угнаенняў.

Храбалоўская грамада за мінулы год на 100% зрэалізавала скуп збожжа ад гаспадароў з абавязковых паставак. Добра выглядае таксама ў Храбалах справа скупу жывёлы з вольнага рынку і кантрактацыі.

У мінулым гаспадарчым годзе Плёскі прадалі 137 галоў рагатай жывёлы, агульная вага якой склала 37 592 кг., 362 свінні, вага якіх 42 930 кг.

(ММ)

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

На Гайнаўшчыне нядрэнна развіваецца жывёлагадоўля. Зараз у павеце налічваецца 28 тысяч кароў. Лепш развівалася б жывёлагадоўля, каб была дастатковая колькасць будаўнічых матэрыялаў. Існуюць цяжкасці з пабудовай добрых сучасных хлявоў для жывёлы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

хутка выканана. Віт пачаў наведваць памяшканне Косці. Навязаліся паміж імі таварыскія адносіны. Косця ўжо не галадаў, быў на нашым утрыманні. Але афіцыйны яго жыццёвы ўзровень падняўся дзякуючы заробкам Ані Забалотнай, якая займалася гандлем. Дык цяпер было што і выпіць, і закусіць.

Пасля аналіза новай порцыі данясенняў, якія прышлі з Бельска, і прачытаўшы ў адным з іх умоўны сказ «фрукт даспеў», мы ведалі, што Косця зрабіў усё і Віта можна вербаваць. Ведалі мы таксама, што Віт асабіста не зрабіў ніякіх злачынстваў, не быў ваенным злачынцам, наадварот: наколькі мог, супрацьдзейнічаў злачынствам. Злачынцаў мы не змаглі ангажаваць да супрацоўніцтва без згоды Масквы.

— Ведаеш што, Валодзя, трэба аднак быць асцярожным. Павінен ты асабіста сустрэцца з Косцем, высветліць усё, што можа наводзіць найменшыя сумненні. Даць Косці заданне, каб стварыў табе ўмовы асабістага кантакту з Вітам. Прыгледзішся да яго, пагутарыш, паглядзіш, якое выкліча ўражанне. Мы павінны бліжэй пазнаёміцца з гэтым тыпам, — разважаў Нячаеў.

Зноў сустрэўся я з Косцем у Аўгустове ў хаце Бусловіча. Дамовіліся, што на другі дзень на пасляабеда Косця запросіць да сябе Віта. Калі той прыдзе, у акне Косці будзе стаяць вазон герані.

**Ян Анацік**

## ПЕРАМОГ ЦЯЖКАСЦІ

У 1962 годзе ў вёску Столбцы, што ў Сямяціцкім павеце, на гаспадарку свайго дзеда прыехаў малады хлапец з малодшаю сястрой і маці. Было яму тады няпоўных 19 год. Бацька яго быў п'яніцам, і ўвесь цяжар гаспадара лёг на плечы сына. Людзі гаварылі яму: «Ідзі ў горад, бо інакш нічога не будзе. Не адбудаваць табе запушчанай і занядбанай гаспадаркі дзеда».

Але Аляксандр Шэранюк ні на што не зважаў, працаваў, планаваў, камбінаваў — і гаспадарка пачала станавіцца на ногі. Пабудаваў сам, сваімі рукамі, добрыя хлявы, пасля клуню. Цяпер збіраецца пабудаваць мураваную хату. Сваёй працай здабыў пашану ў вёсцы. Яго сталі лічыць умелым маладым гаспадаром, які пераадолеў аграмадныя цяжкасці занядбанай 8-гектаравай гаспадаркі.

Я. В.
Залессе

## ШТО З КАЖУХАМІ?

Авечак нямала гадуюць сяляне. Значыць, і скур авечых хапае. Усе ведаюць, што кажухі з авечых скур вельмі лёгкія, вельмі цёплыя і выгадныя. Але вось бяда — няма каму гэтых скур вырабляць.

Належыць да рэдкасці, каб павятовыя ўлады давалі дазвол на выраб скур. І таму можна вельмі часта спаткацца з патаемным, ды яшчэ і часта з дрэнным вырабам скур. Але на гэта сяляне моцна не зважаюць, таму што хочуць хадзіць зімою ў кажухах, якім не даравноўвае па цеплыні ніякая вопратка. (см)

## ДОБРААХВОТНЫЯ ЎПЛАТЫ НА МУЗЕЙ

Актыў беларускага таварыства вялікае зацікаўленне праяўляе да пабудовы будынка на беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. Ужо неаднойчы друкавалі мы добраахвотныя ўплаты паасобных асоб на будову музея. Нядаўна ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку на пабудову музея ўплацілі наступныя асобы: Ілья Бернат — 50 зл., Эльжбета Ягорава — 40 зл., Міхаіл Усціловіч — 100 зл., Уладзімір Навіцкі — 50 зл. (мх)




**Дарагое Сэрцайка!**

Я толькі што вярнуўся з войска. Пачаў вучыцца ў сярэдняй школе, карэспандэнцыйна, а сам жыву пры бацьках на вёсцы. Паўгода назад я пазнаёміўся на фестыне з дзяўчынай — Аняй з іншай вёскі (15 кіламетраў ад маёй). Яна мне падабалася. Мы гулялі цэлы вечар на забаве, а потым я паабяцаў, што да яе прыеду. І так было. Я прыехаў. Аня мне сказала, што яна не хоча, каб я ёй заварочваў галаву, калі не думаю з ёю жаніцца. Я паабяцаў, што я думаю паважна і недаўга ажанюся з ёю. Потым яшчэ пару раз ездзіў да яе. Часам сустракаўся з ёю ў горадзе. Пару нядзель ўжо прайшло, а я не наведваю Аню. Праўда, лісты пішу. А то таму, што я не думаю і не думаў жаніцца. Хачу перш за ўсё скончыць школу. Учора я атрымаў пісьмо ад Ані, яна запрашае мяне на Каляды. Сэрцайка, што рабіць, як паступіць. Ці ехаць да Ані, ці мо ўвогуле перастаць і пісаць і наведваць?

**Віця з Бельшчыны**

**Дарагі Віця!** Твае ўчынкі, на жаль, не годныя пахвалы. Калі дзяўчына табе ад пачатку зазначыла, каб ты не хадзіў да яе, калі не думаеш жаніцца, дык навошта ж ты ашукваў. Ты ж ужо чалавек дарослы, і такія рэчы не павінны ў цябе здарацца. Мне здаецца, найлепш будзе, калі ты паедзеш да Ані і ўсё ёй вытлумачыш асабіста. Праўда, не будзе для цябе прыемнай гэта размова, аднак, на жаль, трэба адказваць самому за свае ўчынкі, а тым самым вучыцца на будучыню.

**Сэрцайка**

## КАЛІ ПАХІЛІЦЦА НА БЯДУ...

Сям'і Марціна Корча з Тафілоўцаў добра жылося, добра вялося. Сын Міша ажаніўся і пачаў належна гаспадарыць. Другі сын, Сярожа, закончыў Ленінградскі педагагічны інстытут імя Герцана і пачаў працаваць сакратаром ПАРП у Барташыцах (Ольштынскае ваяводства). У Мішы і Сярожы былі яшчэ дзве сястры. Яны павыходзілі замуж. Усім жылося добра. Кожны на сябе працаваў. Кожны залажыў сям'ю. Бацька Марцін працаваў на чыгунцы. Але гэты спакойны дом наведала бяда. Матка ўспомненых маладых людзей паехала наведаць сына і ў Элку на станцыі так упала, што разбіла косць у калене. Ляжала ў бальніцы. Лекары вынялі разбітую косць у калене і на месца яе нешта палажылі. І гэтая старая жанчына выздаравела і ходзіць. Вядома, не такая нага ўжо, як раней, але ўсё ж хадзіць неяк можна.

Не паспелі ў хаце забыцца аб выпадку маці, як зноў новае няшчасце заглянула ў дом Марціна Корча. Сын Міша вяртаўся з млына падпіўшы і ў калдобінах вывярнуўся з саней, а на яго мяшкі з мукою. Не было нікога, не было ратунку. І так непадалёк ад сваёй вёскі загінуў Міхась Корч. Роспачы было не да апісання. Гаспадарка засталася без гаспадара. Незадоўга быўшая жонка Мішы выйшла замуж. Бацька Марцін змушаны быў кінуць працу на чыгунцы і вярнуцца дамоў. Каб памагчы і каб супакоіць бацьку і маці ад вялікага гора, прыязджаў сын Сярожа. І вось аднойчы, калі прыехаў летам, у час язды на возе спалохаўся конь і пагнаўся, як шалёны. Тады бацька Марцін трапіў пад калёсы і быў так пабіты, пакалечаны, што ўжо і лекары гаварылі аб хуткай яго смерці. Новае няшчасце так узрушыла сям'ю, асабліва сына Сярожу, што ён доўга не мог дайсці да раўнавагі. Вось які лёс сям'і — чалавечы лёс. Калі пахіліцца на бяду, дык яе не пазбыцца ніяк.

Але вернемся да Марціна Корча. Арганізм яго вытрымаў. Ён выжыў і вярнуўся дамоў. Цяпер ўжо адчувае сябе нядрэнна. Амаль кожны дзень ездзіць у лес па дровы. Ужо крыху агорылі з жонкаю трагічна загінуўшага сына і неяк гаспадараць. Засталіся адны на гаспадарцы. І тут нарастаюць праблемы. Старым ужо не пад сілу спраўляцца з вялікімі абавязкамі гаспадара. Плануюць здаць гаспадарку дзяржаве.

У нас на вёсках многа ёсць старых бацькоў, якія ужо не могуць гаспадарыць. І нейкім ратункам з'яўляюцца ПГР-ы, якія пачынаюць то там, то сям арганізоўвацца на базе вось такіх гаспадарак, як у Марціна Корча. (сс)

## СПАТКАННЕ З НАСТАЎНІКАМІ-ПЕНСІЯНЕРАМІ

Нядаўна адбылося ў Доме Настаўніка ў Гайнаўцы спатканне асветных і прафсаюзных улад з настаўнікамі-пенсіянерамі. Спатканне адбылося пры чорнай каве і традыцыйнай чарцы віна. Настаўнікі расказвалі аб цяжкіх гадах працы ў школе ў пасляваенны перыяд. Дзяліліся сваімі ўспамінамі і жыццёвым вопытам, дзякавалі за памяць школьным уладам і моладзі, якая не забывае пра сваіх выхавацеляў. На сустрэчы былі інспектар Ян Копчук, кіраўнік Павятовага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў Стэфан Гурскі і кіраўнік Настаўніцкага клубу ў Гайнаўцы Янка Цялушэцкі.

**Янцал**
Гайнаўка


Удзельнікі сустрэчы.

## МЕХАНІЧНАЯ ДАЯРКА

Механізацыя ўкрочыла ў вёску цалкавіта. Змеханізаваныя ўжо ўсе сельскагаспадарчыя работы. Цэп, серп, жорны ўжо сталі як успамін мінулага, адсталага гаспадаравання. Трактар, малацільныя агрэгаты, сціральныя машыны (пралькі) сталі ўжо нармальнымі, штодзённымі прыладамі. Ужо некаторыя гаспадары носяцца з намерамі купіць механічныя даяркі, каб аблегчыць працу жанчын. У вёсцы Дзяніскі Палікарп Міранюк першы ў грамадзе Храбалы купіў механічную даярку. Яна пачаткова сярод мясцовага насельніцтва выклікала вялікую сенсацыю. У час даення ёю кароў многа збіралася людзей, і ўсе глядзелі, як яна працуе. А працуе яна выдатна. (хх)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Miłość jednej nocy" (rumuński), 14—15. „Przygoda na wagarach" (NRD), 16—17. „Tabliczka marzenia" (polski), 18—19.

**Дубіны**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Falstoff" (hiszp.), 18—19.

**Нараўка**

„Trzydzieści trzy" (radz.), „Noc bez końca" (bułg.), 15—19.

**Нарва**

„Mój przyjaciel Delfin" (USA), „Mocne uderzenie" (polski), 15—19.

**Чыжы**

„Sobótki" (polski), „Ach ci młodzi" (węgierski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**

„Poranki młodości" (radz.), „Rok Franka W." (polski), 15—19.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Sabrina" (USA), „Największe widowisko świata" (USA), 15—19.

**Орля**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Przed wojną" (jugosłowiański), 15—19.

**Райск**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Faraon" (polski), 15—19.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Kalosze szczęścia" (polski), „Czas miłości" (rumuński), 14—17.

**Міхалова**

„Salto" (polski), 14—15. „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 16—17. „Weekend z dziewczyną" (polski), 18—19.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ameryka, Ameryka" (USA), 14—15. „Umarli milczą" (NRD), I i II s. 16—19.

**Шудзялава**

„Pamiętnik pani doktór" (franc.), „Julia, Anna, Genowefa" (polski), 15—19.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Komedia pomyłek" (polski), „Zjazd rodzinny" (węgierski), 15—19.

**Новы Двор**

„Poznańskie słowiki" (polski), „Pociąg pod specjalnym nadzorem" (czeski), 18—19.

**Ліпск**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Szkoła grzeszników" (czeski), 18—19.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-1 NAKŁAD 6571

